МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№9 (149)
верасень 2014

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:



НАВІНЫ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## АД ВЕРАСНЯ БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА МАЮЦЬ СВОЙ ЗАКОН

21 верасня ўступілі ў сілу ўсе палажэнні Закона "Аб беларусах замежжа", падпісанага Прэзідэнтам сёлета 16 чэрвеня. Спатрэбіўся доўгі шлях – амаль 13 гадоў, каб гэты важны дакумент урэшце быў прыняты. Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" ініцыявала распрацоўку Закона ў далёкім 2001 годзе. Пачынаючы з Трэцяга з'езду беларусаў свету (2001 г.), пытанне прыняцця законапраекта было цэнтральным падчас усіх наступных з'ездаў. Юрыдычная камісія "Бацькаўшчына" працягвала звяртацца да ўладных структураў, даказвала неабходнасць прыняцця законапраекта, яго актуальнасць для беларускай дыяспары, ладзіла рэгулярныя кансультацыі з арганізацыямі беларускага замежжа.

У 2009 годзе "Бацькаўшчыну" пачулі. Пасля Пятага з'езду беларусаў свету была створана працоўная група, дзейнасць якой завяршылася прыняццем Закона ў 2014 годзе. На новым этапе вялікую ролю ў працэсе прыняцця закона адыграла Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Асноўны ж цяжар узгаднення з іншымі дзяржаўнымі ўстановамі ўзяло Міністэрства замежных спраў.




*На пасяджэнні Кансультатыўнага савета. Фота "СБ - Беларусь сёння"*

"Бацькаўшчыны" распрацавала прапановы ў законапраект, грунтуючыся на пажаданнях беларускай дыяспары і падобнага заканадаўства іншых унітарных краінаў свету. Ва Урад Беларусі накіроўваліся як прапановы Згуртавання, так і звароты ад дэлегатаў з заклікам прыняць адпаведны закон. Рабочая група для працы над законапраектам пры Нацыянальным цэнтры заканадаўства і прававых даследаванняў Рэспублікі Беларусь стваралася двойчы: першы раз у 2002 годзе і другі раз у 2009-м. "Бацькаўшчына" працавала ў абедзвюх Рабочых групах, толькі праца ў першай так і не завяршылася прыняццем закона. Тым не менш,

Безумоўна, сённяшні Закон адрозніваецца ад таго законапраекта, што прапаноўвала "Бацькаўшчына", носіць кампрамісны характар. Але тое, што закон прыняты, што ў ім замацаваны паняткак "беларус замежжа" – ужо вельмі важны крок беларускай дзяржавы насустрач беларускаму замежжу. Цяпер гэты закон ужо з'яўляецца часткай знешнепалітычнай дзейнасці беларускай дзяржавы.

*Інфармацыйны цэнтр МГА ЗБС "Бацькаўшчына"*

# ПРАПАНОВЫ ЗГУРТАВАННЯ “БАЦЬКАЎШЧЫНА” Ў СУВЯЗІ З ПРЫНЯЦЦЕМ ЗАКОНА “АБ БЕЛАРУСАХ ЗАМЕЖЖА”

Напярэдадні канчатковага ўступлення Закона ў сілу, 12 верасня, адбылося пасяджэнне Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве культуры Беларусі. Асноўным пытаннем пасяджэння, агучаным Міністрам культуры Барысам Святловым, быў далейшы лёс Кансультатыўнага савета. Справа ў тым, што законам “Аб беларусах замежжа” агаворваецца абавязковае стварэнне Кансультатыўнага савета толькі пры Міністэрстве замежных спраў, пры гэтым існуючы савет пры Міністэрстве культуры страчвае ранейшыя паўнамоцтвы. Таксама кансультатыўныя органы па справах беларусаў замежжа могуць быць створаны пры любых рэспубліканскіх органах дзяржаўнага кіравання, абласных і Мінскім выканкамах. Кампетэнцыя Савета пры Міністэрстве культуры асобна не агаворваецца. Бальшыня прадстаўнікоў беларускай дыяспары, што ўваходзяць у савет пры Міністэрстве культуры, выказаліся за працяг існавання Кансультатыўнага савета пры Мінкульце незалежна ад савета, які плануецца пры МЗС. Кіраўніцтва “Бацькаўшчыны” падтрымала меркаванне беларусаў замежжа, адзначыўшы як ролю Міністэрства культуры ў прыняцці законапраекта, так і той факт, што культура з’яўляецца фундаментальнай асновай для згуртавання беларусаў у свеце, паглыблення іх ідэнтычнасці. Відавочна, што такі падыход у фармаванні саветаў будзе весці да падзелу кампетэнцый паміж міністэрствамі ў рабоце з беларускім замежжам. На жаль, закон не прадугледжвае стварэнне структуры, якая б разглядала праблемы беларускага замежжа комплексна, але магчыма, гэтую функцыю будзе выконваць Міністэрства замежных спраў.

Таксама кіраўніцтвам “Бацькаўшчыны” была выказана прапанова па стварэнні падобнага органа і пры Міністэрстве адукацыі. Вядома, што пытанне беларускага школьніцтва, пытанне моладзі – найважнейшыя для будучыні беларускай дыяспары, а за апошнія гады ў месцах кампактнага пражывання беларусаў замежжа не ўтварылася ніводнай новай школы. Стварэнне савета дазволіла б Міністэрству адукацыі быць больш інтэграваным у працэс супрацоўніцтва з беларускім замежжам.

Кіраўнікі “Бацькаўшчыны” таксама адзначылі важнасць прыняцця Закона “Аб беларусах замежжа”. На іх думку, зараз настае важны момант абмеркавання тых падзаконных актаў прамога дзеяння, якія павінны напоўніць закон практычнымі дзеяннямі. Было выказана спадзяванне, што гэтая функцыя – абмеркавання і прапановаў да дзяржавы адносна падзаконных актаў – будзе належаць Савету пры МЗС, як і функцыя агульнага фармулявання стратэгічных задачаў дзяржавы ў сферы супрацоўніцтва з беларускім замежжам.

Тое, што не прагучала на Савеце, але з чым “Бацькаўшчына” таксама мае намер звярнуцца да Міністэрства замежных справаў: каб у новым савеце бралі ўдзел прадстаўнікі беларускага замежжа не толькі з былога СССР, але і з краінаў далёкага замежжа.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА ЗБС “Бацькаўшчына“*

## АБВЕСТКІ “БУДЗЬМА!”




Да Дня роднай мовы культурніцкая кампанія “Будзьма беларусамі!”, каардынатарам якой ёсць Згуртаванне “Бацькаўшчына”, распачала праект “Не маўчы па-беларуску!”. Паштоўкі гэтага праекта ўжо добра вядомыя ў Беларусі. Кожная з сямі паштовак – тэматычная. Яны цудоўныя і вясёлыя памочнікі для ўсіх, хто цікавіцца беларускай мовай і хоча размаўляць па-беларуску не толькі пра высокія сферы, але і на побытавыя тэмы. Ідэя праекта “Не маўчы па-беларуску” належыць маладой таленавітай мастачцы Дар’і Мандзік. Ад пачатку паштоўкі можна было выйграць толькі на мерапрыемствах кампаніі, аднак вялікі попыт на іх падштурхнуў выдаць іх наборам, які можна набыць у кнігарнях Беларусі. Што праўда, першы наклад хутка “разляцеўся”, аднак кампанія “Будзьма беларусамі!” ужо плануе зрабіць новы наклад.

Набыць паштоўкі пакуль можна толькі ў Беларусі. Таму прапануем беларусам замежжа, якія хацелі б мець такі набор паштовак, напісаць нам. І мы дашлем поштай. А хто хоча сам надрукаваць іх для сябе і сваіх сяброў, таксама паведаміце на адрас zbsb@tut.by, каб атрымаць прыдатныя для друку файлы.

***

Дарагія сябры!

З нагоды шасцігоддзя культурніцкая кампанія “Будзьма беларусамі!”, якую каардынуе Згуртаванне “Бацькаўшчына”, пачала дасылку штомесячнага дайджэсту культурных цікавостак. Тут і навіны, і цікавыя меркаванні экспертаў, дыскусійныя матэрыялы ды многае іншае. Тых, хто цікаўны і неабыякавы да беларускай культуры, запрашаем далучыцца да дасылкі, паведаміўшы пра гэта лістом на razam@budzma.org. І вам не давядзецца губляць свой час на самастойны пошук самых цікавых і важных культурніцкіх навінаў.

Сачыце за навінамі на сайце кампаніі budzma.by і дасылайце свае на razam@budzma.org. Дзяліцеся цікавосткамі ў нашых сацыяльных сетках (Укантакце, Facebook, Twitter)!

Будзьма разам!

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА ЗБС “Бацькаўшчына“*

## ВІНШАВАННІ

### ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ



Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, якія нарадзіліся ў кастрычніку: **Валера Герасімава, Сяргея Харэўскага** (Беларусь), **Міколу Пачкаева** (Вялікабрытанія), **Уладзіміра Астапука, Вольгу Галанаву, Валерыя Казакова** (Расія). Зычым дарагім імяніннікам гумору, дабрабыту, сяброўскай цеплыні і добрага здароўя.

Таксама шчыра віншуем кастрычніцкіх юбіляраў – **Антона Астаповіча**, якому 23 кастрычніка спаўняецца 50 гадоў, і **Алега Якшэвіча**, якому на наступны дзень, 24 кастрычніка, споўніцца 55. Жадаем вам, шаноўныя юбіляры, нястомнасці і плёну ў працы, выдатных дасягненняў, цікавых і пазітыўных падзеяў, а таксама жыццёвай радасці!

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

# БЕЛАРУСКІ КУЛЬТУРНЫ РУХ МАЛДОВЫ АДЧЫНЯЕ ”ДЗВЕРЫ ДА ЭТНІЧНЫХ КАРАНЁЎ“




Вось і лета прайшло... Найлепшы час для падарожжаў і адкрыццяў падышоў да свайго лагічнага завяршэння. Новае міжнароднае грамадскае аб'яднанне ”Беларускі культурны рух Малдовы“ (БКРМ), якое ў траўні атрымала рэгістрацыю Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Малдова, вырашыла канструктыўна выкарыстаць летні перыяд і даць добры старт сваёй грамадскай дзейнасці. На сёння БКРМ налічвае ўжо каля сотні сябраў. Гэта грамадзяне Малдовы, Беларусі, Румыніі, Украіны і нават Канады, людзі розных узростаў, прафесій, канфесій і сацыяльнага дастатку, якія адносяць сябе да беларускага этнасу альбо праяўляюць цікавасць да беларускай культуры.

Афіцыйны пачатак грамадскай дзейнасці БКРМ распачаўся з удзелу ва ўрачыстым адкрыцці Дзён славянскага пісьменства і культуры ў Малдове. Дзякуючы нашаму руху беларуская мова ўпэўнена гучала нароўні з іншымі мовамі на такім значным рэспубліканскім фэсце. У чэрвені і ліпені БКРМ узяў удзел у шэрагу рэспубліканскіх і міжнародных канферэнцый пры Бюро міжэтнічных адносін Рэспублікі Малдова, зрабіў значны ўнёсак у арганізацыю і правядзенне другога агульнарэспубліканскага форуму моладзі “Малдова новага пакалення – 2014“. Шырокі рэзананс выклікаў наш удзел у шэрагу тэлевізійных і радыёпраграм у Малдове, дзе мы імкнуліся звярнуць больш пільную ўвагу на беларускую культуру і на традыцыі беларускай дыяспары Малдовы.

Але самым цікавым і эмацыйным для нашых сяброў стаў праект “Дзверы да этнічных каранёў“, які быў ініцыяваны і запушчаны БКРМ улетку. Асноўная мэта праекта – сустрэчы беларускіх дзяцей замежжа з этнічнай Радзімай. Праз абмежаванне ў фінансах і небяспечную сітуацыю ва Украіне, транзіт праз якую быў патрэбны, БКРМ у сёлетні праект здолеў уключыць толькі сціплую колькасць удзельнікаў ад ліку ўсіх ахвочых. Тым не менш, ідэя дала старт.

У ліпені здзейснілася першая паездка этнічных беларускіх дзяцей з Малдовы ў Беларусь. У рамках культурнай праграмы быў праведзены шэраг цікавых экскурсій па Мінску, адбыліся паездка ў Гомель, вандроўкі па Гродзенскай і Мінскай абласцях. Напрыканцы паездкі прайшла канструктыўная сустрэча з дырэктарам Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур спадаром Міхаілам Леанідавічам Рыбаковым, за што яму яшчэ раз вялікі дзякуй ад БКРМ!

Убачаныя на ўласныя вочы краявіды Беларусі, горад-прыгажун Мінск, яго плошчы, праспекты, паркі і Траецкае прадмесце, новы Музей Вялікай айчыннай вайны, экскурсіі па Свіслачы, палацава-паркавы ансамбль Румянцавых і Паскевічаў у Гомелі, урачыстае адкрыццё мастацкай выставы ”Гульня“ беларускага мастака з Малдовы Вячаслава Ігнаценкі ў галерэі імя Г.Х. Вашчанкі, безумоўна, зрабілі на ўсіх удзельнікаў праекта незабыўныя ўражанні.

Аднак асаблівае захапленне ў дзяцей замежжа выклікалі нават самыя, здавалася б, звыклыя для многіх беларусаў з'явы: шырыня і прастора вуліц гарадоў, сапраўдны хвойны беларускі лес і жытнёвае поле з налітым спелым калоссем, палёты буслоў і вялікія статкі кароў на палетках, беларускія чарніцы і грыбылісічкі, паездка ў Мінскім метрапалітэне і новыя электрычныя кампостары ў гарадскім транспарце, смак беларускага марожанага і тваражкоў, што кожную раніцу былі на стале. Вось якое яно, шматграннае і вельмі цікавае адкрыццё этнічных каранёў!

На пачатку восені Праўленне БКРМ, атрымаўшы такі неверагодны зарад стваральнай энергіі ад роднай зямлі ад шчаслівых дзіцячых вачэй, прыняло рашэнне: зрабіць усё магчымае, каб праект ”Дзверы да этнічных каранёў“ надалей жыў і набіраў моц.

Мы ўпэўненыя, што практыка рэалізацыі такіх грамадскіх дабрачынных праграм павінна ўмацоўвацца і пашырацца ў аб'яднаннях беларусаў замежжа, бо накіравана яна на святое – нашу будучыню. На погляд БКРМ, такія праекты маюць стратэгічна важнае значэнне і абавязкова знойдуць падтрымку аднадумцаў. Правільнае культурнае развіццё духоўнага патэнцыялу дзяцей беларусаў замежжа сёння-заўтра абавязкова дасць выдатныя вынікі на карысць іх этнічнай зямлі – Рэспублікі Беларусь.

*Паводле Ганны Мазур*

# БЕЛАРУСКІ ФЕСТЫВАЛЬ ПРАЙШОЎ У АМЕРЫКАНСКІМ САЎТ-РЫВЕРЫ

У Беларуска-амерыканскім грамадска-рэлігійным цэнтры ў Саўт-Рыверы 6 верасня адбыўся беларускі фестываль, на які сабралася каля 200 гасцей. Валянцін і Таццяна Дзямешчыкі з удзелам трубача Сяргея Дзямешчыка забяспечылі гасцям прыемныя і забаўныя песні ды музыку пад танцы. Танцавальны гуртох “Лянок“ (харэаграфія сп-ні Вілы Леўчук) пацешыў вока гледачам і прыцягнуў увагу фатографаў. Са спевамі выступілі Ліза Кузьміцкая і Кіра Карніенка. Ліза таксама пачуццёва прадэкламавала два беларускія вершы.

Выказваючы падзяку ўсім удзельнікам імпрэзы — хто прыбіраў пляц (а сярод іх былі і госці з Беларусі), хто прыгожа аформіў і расставіў латарэйныя кошыкі на сталах, хто абслугоўваў сталы і бар, прадаваў квіткі, вёў латарэю, хто забаўляў і весяліў народ, — трэба асабліва падкрэслена назваць жанчын, якія ў гарачае надвор’е некалькі дзён запар працавалі ў кухні, гатуючы смачную ежу, а гэта спадарыні: Соня Арцішэнка, Вера Мяжэвіч і Марыя і Надзя Наумчыкі.

Дзякуючы названым і неназваным руплівцам, ахвярадаўцам фантаў, гасцям фестывалю, каса царкоўнага прыходу папоўнілася, падмацоўваючы гэтым надзею, што беларуска-амерыканская грамада ў Саўт-Рыверы і ваколіцах здолее забяспечыць сабе будучыню на наступныя доўгія дзесяцігоддзі.

*Паводле Янкі Запрудніка*

# ЧАСОПІС “САКАВІК” ЗМЯНІЎ НАЗВУ

Паводле рашэння рэдакцыі часопіс “САКАВІК”, пачынаючы з гэтага нумара, будзе выходзіць пад назвай “КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”. Новая назва часопіса, на погляд рэдакцыі, больш лаканічная. Змест і напрамак матэрыялаў часопіса не зменяцца. Як і раней, часопіс будзе скіраваны на асвятленне праблем станаўлення і развіцця беларускай нацыі. Рэдакцыя сыходзіць з таго, што менавіта праз культуру магчыма рабіць уплыў на свядомасць насельніцтва Беларусі, фармаваць і ўзмацняць нацыю.

Вэб-старонка будзе мець тую ж назву, што і раней (www.sakavik.net).

***Змест часопіса ”КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ“ №7, верасень 2014:***

*Віктар Кавалеўскі. Ідэялагічныя ўтопіі, сакрэтныя дамовы, войны і міграцыя насельніцтва.*

*Пётра Мурзёнак. Наступны перыяд развіцця нацыянальнай ідэі будзе спрыяльным.*

*Пётра Мурзёнак. Беларусь – не Еўразія, або нацыянальная ідэя сёння.*

*Тадэуш Стружэцкі. Вяртанне на Радзіму.*

*Джозеф Кэмпбелл. Серия лекций ”ЧЕЛОВЕК И МИФ“ (перевод с английского Олега Буевича).*

*Паводле Пётры Мурзёнка*

# ГОСЦІ НА СЯДЗІБЕ "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ"

У верасні адбыўся Другі фестываль мастацтваў беларусаў замежжа, які ладзіўся Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і сабраў каля 250 ўдзельнікаў з розных краінаў. Пасля фестывалю да нас на сядзібу завіталі сябры Вялікай Рады Згуртавання Алег Рудакоў з сібірскага Іркуцка і Пятрусь Капчык з украінскага Ізяслава. Абодва падзяліліся сваімі ўражаннямі ад мерапрыемстваў і ад паездкі на Радзіму.

У першы дзень гасцей падзялілі на групы і зладзілі для іх экскурсіі ў розныя раёны Беларусі і арганізавалі іх выступы ў аграгарадках. На другі дзень выступы адбываліся ў Мінску на адкрытай пляцоўцы ля Палаца спорту, а ў апошні дзень быў заключны гала-канцэрт.




*Пятрусь Капчык*

Пятрусь Капчык расказаў, што сёлета, у адрозненне ад Першага фестывалю, які адбыўся ў 2011 годзе, Украіну прадстаўляў ён адзін. Гэта звязана з трывожнай сітуацыяй у краіне. Сам жа спадар Пятрусь застаўся вельмі задаволены арганізацыяй мерапрыемстваў і тым, як яны прайшлі. Усё было на еўрапейскім узроўні, адзначыў ён. Падчас паездкі па Слуцкім раёне іх група наведала музей-галерэю "Слуцкія паясы", дзе гасцей сустрэў народны ансамбль танца "Кордэс" у шляхецкіх строях. Іх танец зрабіў на ўсіх вялікае ўражанне, як і знаёмства з працэсам вырабу паясоў. Перад выступам у аграгарадку Вясея для гасцей танчыў і спяваў дзіцячы фальклорны калектыў "Вясейка", які Пятрусь Капчык называе сапраўдным цудам і знаходкай. Увогуле, зала была поўная ахвочых сустрэцца з творцамі, што прыехалі да іх з Польшчы, Эстоніі, Італіі ды Украіны. І нягледзячы на тое, што ў Мінск выступоўцы вярнуліся ўжо а палове другой ночы, а ўставаць трэба было а сёмай, спадар Пятрусь з задавальненнем выступіў са сваёй мікрабайкай на пляцоўцы каля Палаца спорту.

"У апошні дзень, – працягвае Пятрусь Капчык, – у нас была сустрэча ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Нас сустрэла дырэктар Зінаіда Мікалаеўна Камароўская, і нас запрасілі ў музей на экскурсію, дзе мы пачулі жывы голас Якуба Коласа, запісаны незадоўга да яго скону. Потым зайшлі ў гасцёўню на другім паверсе, дзе дзве жанчыны-выкладчыцы з музычнага каледжа выканалі для нас "Мой родны кут". На літаратурнай сустрэчы мы, госці-ўдзельнікі фестывалю, выступалі па чарзе з мясцовымі літаратарамі, сябрамі ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі".

А фіналам фестывалю быў гала-канцэрт. Я выступіў з мікрабайкай і дабавіў да яе такія радкі:

*"Калі шлях да мэты камяністы,*
*калі кожны крок даецца з боем,*
*ты не забывай: мы – беларусы,*
*пераможцы цяжкасці любое…"*

Алег Рудакоў прыехаў на фестываль разам з кіраўнічкай ансамбля аўтэнтычнага спеву "Крывічы" Воляй Галанавай. Госці з Іркуцка пераадолелі 6000 кіламетраў, каб прадставіць на свяце старадаўнія беларускія песні, дагэтуль захаваныя нашчадкамі колішніх перасяленцаў, што з'ехалі ў Сібір больш за стагоддзе таму. Аднак эмоцыі ад фестывалю засталіся неадназначныя: былі як пазітыўныя моманты, так і негатыўныя, звязаныя з арганізацыяй. Вельмі прыемныя ўражанні пакінула экскурсія па музеі Якуба Коласа ў Акінчыцах. Выступы ў аграгарадку і ля Палаца спорту таксама ў цэлым прайшлі добра, публіцы вельмі спадабаліся аўтэнтычнае выкананне беларускіх песень. Алег і Воля сустрэлі падчас фестывалю шмат сяброў, як старых, так і новых. Іх запрасілі таксама выступіць і падчас курсаў "Мова Нанова", а таксама паўдзельнічаць на свяце "Багач" у Вязынцы. Безумоўна, іркуцкія беларусы з радасцю прынялі гэтыя прапановы.

Непрыемным момантам, аднак, была сітуацыя з гала-канцэртам. У дзень, калі ён мусіў адбыцца, арганізатары раптоўна паведамілі, што праграма будзе скарочаная, і кожная краіна зможа прадставіць толькі па адным нумары. Такім чынам некаторыя гурты ўвогуле не змаглі прагучаць на гэтым маштабным мерапрыемстве. Так пацярпелі, напрыклад, некалькі калектываў з Латвіі, а таксама і прыбайкальскія "Крывічы", якія за ўласны кошт пераадолелі вялікую адлегласць, каб паўдзельнічаць у фестывалі на сваёй гістарычнай Радзіме. Застаецца спадзявацца, што наступным разам арганізатары фестывалю ўлічаць свае недапрацоўкі. Тым не менш, паездка ў Беларусь і Алегу Рудакову, і Волі Галанавай прынесла шмат станоўчых эмоцыяў і цудоўных уражанняў.

Напярэдадні ад'езду ў Сібір спадар Алег завітаў да нас яшчэ раз. Гэтым разам ён падзяліўся з намі вельмі цікавай прапановай, якую ён агучваў падчас сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй Віцебска, а таксама на нарадзе Кансультатыўнага савета па справах дыяспары. І там, і там гэтая прапанова выклікала вялікую цікавасць. А звязаная яна з заснаваннем музея Яна Чэрскага, а таксама з іншымі выдатнымі беларусамі, якія воляй лёсу некалі апынуліся ў Сібіры.

Ян Чэрскі нарадзіўся ў Віцебскай губерні ў 1845 годзе. Ён называў сябе шляхціцам з літвінаў, заўсёды цёпла адзываўся пра беларускую мову. Маладым удзельнічаў у паўстанні Каліноўскага, трапіў у палон. Яго саслалі за Урал, і там ён правёў вялікую працу як геолаг і географ. Яму належыць, напрыклад, першая дакладная мапа Байкала.

Чэрскі стаў знакамітым чалавекам у Прыбайкаллі. Ягоным імем названыя горны хрыбет, горны пік, вуліца ў Іркуцку, пасёлак… Загінуў ён падчас экспедыцыі на Калыме. Разам з ім там была яго жонка Маўра, родам з Іркуцка. Яна завяршыла экспедыцыю, а потым паехала на гістарычную радзіму мужа – на Віцебшчыну, дзе і сустрэла рэвалюцыю.

"Ёсць звесткі, што яе нават хацелі раскулачыць, – кажа Алег Рудакоў, – бо ёй далі трошкі зямлі, хоць і мала, але бальшавікі палічылі, што, можа, яна занадта заможная жанчына. Ёсць захаваны ліст, дзе яна пісала ў Віцебскі саўнаркам і тлумачыла, што яна жонка выбітнага навукоўца, які прысвяціў усё сваё жыццё навуковым даследаванням, што дзякуючы яму шмат чаго зроблена, і што ўрад даў ёй на ўтрыманне пэўны надзел зямлі, але з гэтай зямлі толкам не было ніякага прыбытку. Але ўсё роўна яе спрабавалі раскулачыць, і потым яна сама ўсё кінула і з'ехала жыць у Растоў, дзе потым і памерла".

Такім чынам, імя Яна Чэрскага ў Іркуцку і Іркуцкай вобласці шырока вядомае, але ў Беларусі яго ведаюць, бадай, толькі ў вузкіх колах навукоўцаў. **Таму ў Алега Рудакова з'явілася прапанова па стварэнні на базе дома, дзе жыла Маўра Чэрская, зрабіць музей.** Музей не толькі самога Чэрскага, але і тых выбітных беларусаў, якія калісьці

## ГОСЦІ НА СЯДЗІБЕ "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ"




*Алена Макоўская, Алег Рудакоў і Ніна Шыдлоўская*

воляю лёсу трапілі ў Сібір. А насупраць гэтага музея паставіць помнік Яну Чэрскаму.

"Гэта было б вельмі добра і карысна для нас, беларусаў, – даводзіць Алег Рудакоў. – Для Іркуцка гэта таксама была б выдатная рэч, таму што тады б мы маглі казаць, што беларусы памятаюць, што яны суродзічы Яна Чэрскага, яны паставілі яму помнік. Бо Ян Чэрскі быў каталіком, і іркуцкія палякі яшчэ з савецкіх часоў "прыпісалі" яго да палякаў, як гэта звычайна робіцца. Таму гэта было б акцэнтам, што ўсё ж Ян Чэрскі – беларус. Ён сам сябе лічыў беларусам, літвінам сябе называў і пра мову беларускую выказваўся. Мы там ужо правялі пэўную працу, выступалі ў прэсе, але ўсё роўна была б вялікая справа, калі б мы зрабілі тут помнік".

Таксама Алег Рудакоў хацеў бы сабраць як мага больш матэрыялаў пра выбітных беларусаў Прыбайкалля, каб потым аформіць іх у зборнік. "Гэты зборнік можна было б надрукаваць таксама і ў Іркуцку на рускай мове, каб мясцовыя жыхары ведалі пра беларусаў, што там жылі і працавалі, – гаворыць Алег Рудакоў. – Калі б такі матэрыял быў выдадзены, то яго можна было б накіраваць у бібліятэкі, і гэта была б ужо значная справа для таго, каб падняць гонар за беларусаў, якія калісьці апынуліся ў Сібіры".

**Спадар Алег звяртаецца да ўсіх, хто можа дапамагчы ў пошуку любых звестак пра выбітных беларусаў Прыбайкалля.**

Звязацца з ім можна праз электронную пошту **malanka2000@mail.ru.**

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## СПАРТЫЎНЫ ФЕСТЫВАЛЬ "МОВА CUP" УПЕРШЫНЮ ПРАЙШОЎ У МІНСКУ




Ідэя гэтага фестывалю, на якім усе размаўляюць па-беларуску і разам удзельнічаюць у розных спартыўных спаборніцтвах, належыць групе зорных беларускіх атлетаў з вядомага дабрачыннага праекта "Мары збываюцца". Адна з хэдлайнераў "Мова Cup" Аляксандра Герасіменя ўжо не першы раз спрабуе сабраць на адной пляцоўцы зорак беларускага спорту і звычайных беларусаў — балельшчыкаў і аматараў здаровага ладу жыцця. Як сцвярджаюць арганізатары, мерапрыемства яшчэ не мела аналагаў у гісторыі беларускага спорту — перадусім таму, што працоўнай мовай спаборніцтваў вызначаная беларуская. 28 верасня мінчанам і гасцям сталіцы, якія бралі ўдзел у спаборніцтвах па шматлікіх відах спорту, была аддадзена ўся плошча спартыўнага комплексу РЦАПа па лёгкай атлетыцы, дзе ў сяброўскай атмасферы аматары змагаліся ў розных дысцыплінах: мініфутболе, стрытболе, лёгкай атлетыцы, плаванні, бадмінтоне, гіравым спорце, шахматах, настольным хакеі ды інш. Не абмінулі ўвагай і забаўныя віды спаборніцтваў, напрыклад, шпурлянне мабільных тэлефонаў або 30-метровы забег хлопцаў з дзяўчатамі на плячах. Аляксандра Герасіменя таксама паўдзельнічала ў такім забегу, а апроч таго, дала майстар-клас па плаванні для дзяцей.

Паводле словаў Герасімені, наступны "Мова Cup" можа адбыцца праз паўгода.

*Паводле прэсы*
*Фота - "Еўрарадыё"*

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ "МОВЫ" ВІКТАРА МАРЦІНОВІЧА




У крэатыўнай прасторы "ЦЭХ" 29 верасня адбылася прэзентацыя рамана "Мова" Віктара Марціновіча. Ад тыповых літаратурных прэзентацый апошніх гадоў прэзентацыя "Мовы" адрознівалася найперш тым, што людзі, якія прыйшлі на яе (не менш за сто чалавек!), збольшага не ведалі адно аднаго ні ў твар, ні па імёнах. Феномен прозы Віктара Марціновіча палягае менавіта ў тым, што яе чытаюць тыя, каго не пабачыш на літаратурных прэзентацыях іншых аўтараў. І гэта добра.

Прэс-сакратар кампаніі "Будзьма беларусамі!", Лізавета Неўмяржыцкая паведаміла, што ўжо за першыя два тыдні па кнігарнях разышлося 1000 асобнікаў рамана. Падчас прэзентацыі, якую вёў Усевалад Сцебурака, урыўкі з рамана чыталі акторы Купалаўскага тэатру Ганна Хітрык і Павал Харланчук.

Перакладчыца кнігі Марціновіча на рускую мову Лідзія Міхеева звярнула ўвагу, што год таму аўтар напісаў "Сфагнум" па-руску, а потым кнігу перакладаў на беларускую мову Віталь Рыжкоў, цяпер жа раман напісаны па-беларуску, і пераклад спатрэбіўся ўжо на рускую мову.

На імпрэзу быў запрошаны і філосаф ды паэт Міхась Баярын. Ён прызнаўся, што раман Віктара – гэта кніга, якую б ён хацеў напісаць сам.

Напрыканцы на сцэну ўзняўся сам аўтар рамана. Ён распавёў зале гісторыю стварэння кнігі. Ідэя, паводле словаў Марціновіча, прыйшла яму ў галаву пасля прачытання санетаў Шэкспіра ў бліскучых перакладах Уладзіміра Дубоўкі, дзе Віктар сустрэў "словы, якія ніхто не ўжывае". "Кранальная прыгажосць перакладаў", фактычна забытых сучасным гараджанінам, і падштурхнула Віктара на стварэнне рамана пра беларускую мову. Сваім тэкстам ён хацеў найперш папулярызаваць беларускую класіку і саму мову праз ліха закручаны сюжэт баевіка.

*Паводле budzma.by*

# ГІСТОРЫЯ "МАЙГО МЯСТЭЧКА"




Сёлета выйшла кніга дзеяча беларускай эміграцыі ў Амерыцы Васіля Стомы, які быў адным з заснавальнікаў аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання ў Нью-Джэрсі. "Маё мястэчка" – гэта напісаныя ў эміграцыі маляўнічыя, поўныя гумару ўспаміны пра яго малую радзіму – Лужкі, што на Віцебшчыне. Кніга выйшла ў выдавецтве "Лімарыус" у серыі "Беларуская мемуарная бібліятэка". У жніўні ў Лужках адбылася прэзентацыя гэтай кнігі, арганізаваная пры дапамозе Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" ў межах кампаніі "Будзьма беларусамі!". На радзіме Васіля Стомы цікавасць да кнігі была асабліва высокая. На прэзентацыю ў мясцовым Доме культуры сабралася каля 40 чалавек. Сябра Управы Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", гісторык Наталля Гардзіенка расказала пра дзейнасць Згуртавання і перадала для Лужэцкага клуба ды Цэнтра Язэпа Драздовіча, што знаходзіцца ў суседніх Германавічах, падарункі ад "Бацькаўшчыны" і кампаніі "Будзьма беларусамі!". Таксама яна распавяла пра Беларускі інстытут навукі і мастацтва, створаны ў пачатку 1950-х гг. у Нью-Ёрку для аб'яднання беларускай інтэлігенцыі, што ў паваенны час апынулася на Захадзе. Сябрам БІНіМа быў і аўтар "Майго мястэчка" Васіль Стома.

Вось што расказвае пра свой удзел у выданні кнігі спадарыня Наталля: "Мая роля ў працы над кнігай успамінаў Васіля Стомы "Маё мястэчка" была невялікая: каардынаванне працы па падрыхтоўцы тэксту да выдання, дапрацоўка каментароў, тэхнічнае рэдагаванне, адбор ілюстрацыяў. Тэкст захапіў ад самага знаёмства з ім. Але самая цікавая частка працы, бадай, была звязана з запісам інтэрв'ю са стрыечным братам аўтара Аўгенам Канановічам. Ён распавёў, якім памятае Васіля Стому з беларускіх часоў і з амерыканскіх (Аўген Канановіч адведваў пісьменніка ў Амерыцы яшчэ ў савецкія часы). Стрыечны брат пераказаў гісторыю пра тое, як Стома, што ў ЗША працаваў у майстэрні па рамонце адзення ў вялікай краме, аднойчы прышываў гузік Альберту Эйнштэйну. Удалося таксама звязацца з Вольгай Грыцук, што цяпер жыве ў Канадзе, якая згадала пра знаёмства з Васілём Стомам у часе Другой сусветнай вайны. Усё гэта было пакладзена ў аснову напісанай невялікай паслямовы да "Майго мястэчка".

Мы папрасілі Зьмітра Саўку расказаць крыху падрабязней для чытачоў нашага бюлетэня аб працы над выданнем. Ён нагадаў, што ініцыятарам публікацыі гэтага твора яшчэ ў 1990-ыя гады выступіў сябра БІНіМа, даследнік і архівіст, што жыве ў Нью-Ёрку, Лявон Юрэвіч.

Ён эміграваў у Амерыку ў 1993 годзе, неўзабаве знайшоў там беларусаў, пасляваенную палітычную эміграцыю – людзей, да якіх належаў і Васіль Стома. Лявон Юрэвіч узяў сабе за мэту максімальна раскрыць спадчыну беларускай эміграцыі. "Ён стараецца напоўніць новым жыццём тыя пляцоўкі, якія некалі ствараліся эміграцыяй, – гаворыць Зміцер Саўка. – Гэта найперш "Запісы Беларускага інстытуту навукі і мастацтва". Сёння "Запісы" існуюць найперш дзякуючы ягонай рупнасці. Гэтае выданне пачало выходзіць яшчэ ў 1950-я гады, і яно 60 гадоў жыве, з іх як мінімум апошнія 10 гадоў дзякуючы менавіта Юрэвічу. Я таксама меў дачыненне да гэтага выдання, некалькі нумароў зрабіў як рэдактар. Лявон Юрэвіч знайшоў сабе паплечніцу ў Беларусі, Наталлю Гардзіенку . У выніку мы маем паўнавартаснае выданне, якое сапраўды шырока разглядае спадчыну беларускай эміграцыі".

Лявон Юрэвіч заўсёды дбайна вывучае ўсё, што яму трапляецца з архіваў беларусаў, і знаходзіць шмат цікавых матэрыялаў. Сярод іх яму трапіўся машынапіс Стомавай кніжкі, і ён прапанаваў Змітру Саўку заняцца яго падрыхтоўкай да публікацыі, якая і была зробленая ў 1997 годзе ў часопісе "Полымя".

Спадар Зміцер згадвае: "Тады яшчэ такія былі часы, што часопіс "Полымя" мог надрукаваць твор эмігранта, які займаў відавочна антысавецкую, моцную патрыятычную пазіцыю. Ужо пасля таго як гэтая часопісная публікацыя адбылася, адкрыццём для нас з Лявонам аказалася, што ў беларускім часопісе "Беларускі свет", які выходзіў у Злучаных Штатах, рукапіс ужо быў апублікаваны. І аказалася, што тэкст машынапісу, які знайшоў у архівах Юрэвіч, і ўжо апублікаваны тэкст даволі выразна адрозніваюцца. Аднак на момант, калі мы гэта адкрылі, ужо былі дзве публікацыі, якія фармальна амаль роўныя, адно што асноўнаю лічыцца, несумненна, апошняя прыжыццёвая публікацыя. Але калі ўжо рыхтуючы кніжнае выданне, я пачаў супастаўляць часопісны тэкст і машынапіс, то прыйшоў да высновы, што асноўным тэкстам варта лічыць усё ж знойдзены Юрэвічам, бо там няма рэдактарскіх выпраўленняў. Пры рэдактуры "Беларускага свету" ў тэксце з'явіліся формы і словы, не характэрныя для Стомавай гаворкі, што сведчыла пра выразнае рэдактарскае ўмяшанне.

У тэкстах не супадаюць некаторыя месцы, апавядаецца трошкі па-рознаму пра адныя і тыя ж падзеі. Гэта дае падставы меркаваць, што былі два рукапісы. Таму даводзілася проста сінтэзаваць тэкст. Я ўзяў на сябе такую адказнасць – усё дзеля таго, каб тыя падзеі, тыя тонкія назіранні, уласцівыя Стому, трапілі ў кніжнае выданне, якое мусіць быць максімальна поўным. Гэта была, прызнаюся, захапляльная праца".

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА ЗБС "Бацькаўшчына"*

## ДА 500-ГОДДЗЯ БІТВЫ ПАД ОРШАЙ ВЫЙШЛА КНІГА АНАТОЛЯ ГРЫЦКЕВІЧА "СЦЯГІ ОРШЫ"




У сваім гістарычным нарысе доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч разглядае бітву пад Оршай з беларуска-цэнтрычных пазіцый. Гэта першая праца такога кшталту. Мастацкае афармленне "Сцягоў Оршы" зрабіў Зміцер Герасімовіч. У выданні 50 ілюстрацый. Яно запачаткоўвае серыю "Славутыя перамогі", галоўным рэдактарам якой стаў Уладзімер Арлоў.

Кніга пабачыла свет дзякуючы мінскаму выдаўцу Аляксею Вараксіну.

8 верасня кніга была прэзентаваная ў Мінску падчас адкрыцця другога сезону курсаў "Мова нанова". А 12 верасня Уладзімір Арлоў прадставіў кнігу ў Беларускай клубоўні ў Празе.

*Паводле "Нашай Нівы" і pahonia.cz*

## У ВІЛЬНІ ЎШАНАВАЛІ 500-ЫЯ ЎГОДКІ ПЕРАМОГІ ВОЙСКАЎ ВКЛ НАД МАСКОЎСКІМ КНЯСТВАМ

У грэка-каталіцкай Святатроіцкай царкве 6 верасня адбылася літургія ў гонар перамогі войскаў ВКЛ пад кіраўніцтвам гетмана Канстанціна Астрожскага над Маскоўскім княствам. Літургію адслужылі: а. Вікенцій (Васіль Яніцкі), а. Павел Яхімец і а. Даніла Сваяк.

Сімвалічна, што служба праходзіла ў тым самым храме, які збудаваў Канстанцін Астрожскі ў гонар гэтай перамогі. Як кажа легенда, князь усю ноч маліўся Прасвятой Дзеве і даў абяцанне: калі пераможа маскалёў, збудуе царкву. Абяцанне гэтае ён выканаў.

Служба адбывалася на беларускай і ўкраінскай мовах – чарговае сведчанне пра братэрскасць нашых народаў і пра тое, што мова – не перашкода ў камунікацыі.

Гэтая царква звязана з адным з найбольш вядомых дзеячаў беларускага і ўкраінскага народаў, св. Язафатам Кунцэвічам, які з'яўляецца чарговым прыкладам агульнай гісторыі. Ён нарадзіўся ва Украіне, служэнне распачынаў тут, у Вільні, у гэтым самым храме. А ў Віцебску, на беларускай зямлі, прыняў пакутніцкую смерць. Сваё жыццё аддаў за аб'яднанне цэркваў і народаў. Памятайма і шануйма сваю гісторыю!

*Паводле доктара Алеся Адамковіча, tavarystva.lt*

## БЕЛАРУСЫ МАЯМІ ПРАМЯНЯЛІ ПЛЯЖ НА ЛУК І СТРЭЛЫ

Сябры Паўднёва-Фларыдскага гуртка Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА) адзначылі юбілейныя 500-ыя ўгодкі Аршанскай бітвы на стрэльбішчы.

28 верасня ўпершыню над Фларыдай прагучала сярэднявечная малітва "Багародзіца". А пасля прэзентацыі пра перамогу пад Воршай удзельнікі развучылі і старадаўні танец "Маразуля".

Паўднёва-Фларыдскі гуртох БАЗА ўжо тры гады актыўна гуртуе беларусаў, а таксама запрашае амерыканцаў даведацца болей пра Беларусь.

Сяргей Волкаў, старшыня гуртка: "На жаль, негатыў пра Беларусь распаўсюджваецца хутчэй. Амерыканскае грамадства больш ведае пра ўладу, чым пра беларускі народ. Мы абражаемся, калі за мяжой нас блытаюць з расійцамі ці ўкраінцамі. Але праз рэжым мы і самі сябе не да канца ведаем. Замоўчванне гістарычных фактаў, нашых перамог і дасягненняў замінае фармаванню беларускай самасвядомасці. А нам ёсць чым ганарыцца: маем сваю старажытную мову, багатую на перамогі гісторыю і глыбокую культуру".

*Паводле "Радыё Свабода"*

## 500-ГОДДЗЕ БІТВЫ ПАД ВОРШАЙ АДЗНАЧЫЛІ Ў ТАРОНТА

14 верасня беларусы Таронта разам адзначылі 500-годдзе Бітвы пад Воршай. Пасля ўрачыстае імшы ў грамадскай зале адбылася юбілейная імпрэза, арганізаваная Згуртаваннем беларусаў Канады.

Алена Лявончанка падрыхтавала вельмі цікавую прэзентацыю, у якой распавяла пра падзеі 500-гадовай даўніны, а таксама ўзгадала святкаванне гадавіны Бітвы пад Воршай у першыя гады Незалежнасці і ўрачыстую прысягу вайскоўцаў пад бел-чырвона-белым сцягам на вернасць адроджанай Беларусі.

Прысутныя адзначылі паралелі паміж той даўняй вайной і сёлетнімі падзеямі, калі Расія ізноў пайшла ў наступ на былыя землі Вялікага Княства Літоўскага.

Пасля заканчэння свята частка ўдзельнікаў далучылася да Фэсту ўкраінскае культуры, што праходзіць ва ўкраінскіх кварталах Таронта штогод.

*Паводле прэс-службы ЗБК*

## У МІНСКУ ПРАЙШЛА ВЕЧАРЫНА ПАМЯЦІ ГЕНАДЗЯ БУРАЎКІНА




Вечарына памяці выбітнага паэта і грамадскага дзеяча прайшла 2 верасня ў Палацы мастацтваў. Імпрэза адбылася дзякуючы сумесным арганізацыйным высілкам Беларускага саюза мастакоў, Саюза беларускіх пісьменнікаў і актывістаў кампаніі "Гавары праўду".

Цёплымі, пранікнёнымі словамі, вершамі, гісторыямі з жыцця сябра і паплечніка ўзгадвалі пісьменнікі, мастакі і музыкі.

Паэт Уладзімір Някляеў зазначыў, што Генадзь Бураўкін быў грамадскім дзеячам і дыпламатам, але прыйшоў на гэты свет паэтам і паэтам з гэтага свету сышоў. "І гэта самая вялікая місія, якую ён выканаў на нашай роднай зямлі, за што яму будзе ўдзячнае не адно пакаленне беларусаў", — падкрэсліў ён.

Творчы вечар пры поўнай зале доўжыўся амаль тры гадзіны.

*Паводле "Новага Часу"*

## У ВАРШАВЕ І ВАШЫНГТОНЕ ЎЗГАДАЛІ АХВЯРАЎ БЕЛАРУСКАГА РЭЖЫМУ

Удзельнікі акцыі на Замкавай плошчы трымалі ў руках партрэты загінулых у нявысветленных акалічнасцях: Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Юрыя Захаранку і Змітра Завадскага, а таксама палітвязняў. Мінакам раздавалі ўлёткі.

Уладзімір Кобец, грамадзянская кампанія "Еўрапейская Беларусь": "Сёння споўнілася роўна 15 год са дня знікнення Ганчара і Красоўскага. Фармальна гэта з'яўляецца падставай для ўладаў закрыць гэтыя справы. І мы хочам прыцягнуць увагу да таго, што гэтага нельга рабіць, што злачынцы не пакараныя".

Акцыя салідарнасці ў Варшаве праходзіла пад лозунгам "Прыцягнуць да адказнасці і пакараць забойцаў".

У гэты ж дзень, 16 верасня, падобная акцыя адбылася ля будынка беларускай амбасады ў ЗША. Людзі патрабавалі праўды пра лёс зніклых, вызвалення палітычных вязняў у Беларусі, спынення палітычных рэпрэсіяў.

*Паводле "Беларускага Радыё Рацыя" і "Радыё Свабода"*

## АСВЯЦІЛІ ПОМНІК ЮРАСЮ БУШЛЯКОВУ



3 верасня на Паўночных могілках Мінска адбылося асвячэнне помніка філолагу, педагогу, журналісту "Радыё Свабода" Юрасю Бушлякову. Асвяціў помнік святар грэка-каталіцкай царквы, айцец Андрэй Абламейка. На асвячэнні прысутнічалі сваякі і сябры.

Аўтар помніка — скульптар Ігар Засімовіч.

Юрась Бушлякоў памёр пасля цяжкай хваробы 4 чэрвеня 2013 года. Пасля ягонай смерці ў свет выйшла кніга "Жывая мова", над якой ён працаваў апошнія месяцы жыцця.

*Паводле "Радыё Свабода"*

# З БЕЛАСТОЦКАГА ЎНІВЕРСІТЭТА ЗВОЛЬНІЛІ ВЯДОМУЮ БЕЛАРУСІСТКУ

Пасля больш як паўтара дзясятка гадоў працы на кафедры беларускай культуры філалагічнага факультэта Беластоцкага дзяржаўнага ўніверсітэта звольненая знаная руплівіца беларушчыны, доктар паліталогіі Алена Глагоўская. Кіраўніцтва ВНУ матывуе скасаванне кантракту адсутнасцю фінансавых магчымасцяў надалей утрымліваць штатную адзінку. Калегі арганізавалі збор подпісаў за аднаўленне Глагоўскай на працы.

Алена Глагоўская апавяла, што ад 1 кастрычніка не мае доступу ў адміністрацыйныя памяшканні ўніверсітэта, але, як сама выказалася, яшчэ піша "дурныя і бессэнсоўныя" лісты, спрабуючы пачуць уцямнае тлумачэнне, чаму яна больш не працуе на сваёй любімай кафедры:

"16 з паловай гадоў я адпрацавала на кафедры беларускай культуры, і так вось усё скончылася. Не працягваючы са мной кантракт, яны нікога на гэтае месца не ўзялі, проста ліквідавалі адзінку. Пры гэтым рэктар прызнаў, што вельмі цэніць мае дасягненні, што насамрэч гэта феномен. Калі гаварыць пра колькасць навуковых публікацыяў, то я маю трэцяе месца на факультэце, а там больш за 100 асобаў. І тое, што я ім больш не патрэбная, выглядае страшэнна і смешна адначасна".

За гады працы на кафедры беларускай культуры Алена Глагоўская напісала сотні навукова-папулярных артыкулаў, адрэдагавала тры дзясяткі кніг, за ўласныя сродкі арганізавала дзясяткі экспедыцыяў у рэгіёны Беларусі. Дзякуючы намаганням доктара Глагоўскай існуе Таварыства беларускай культуры ў Гданьску, там жа ўсталяваны помнік Янку Купалу, а адна з вуліц у Гдыні названая ў гонар Янкі Брыля. Яна аўтар шматлікіх даследаванняў пра выбітных дзеячаў беларускай і польскай культур.

МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" рыхтуе зварот на імя рэктара ўніверсітэта з заклікам аднавіць Алену Глагоўскую на пасадзе. Яе прафесійны досвед незаменны, і ўнёсак, які яна зрабіла і робіць у Польшчы на карысць беларускай культуры, цэнны не толькі Беларусі, але і для самой Польшчы.

*Паводле "Радыё Свабода"*

# БЕЛЬСКІ ЛІЦЭЙ ІМЯ БРАНІСЛАВА ТАРАШКЕВІЧА АДСВЯТКАВАЎ 70-ГОДДЗЕ

26 верасня 2014 года ў II Агульнаадукацыйным ліцэі з дадатковым вывучэннем беларускай мовы імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляскім адбылося ўрачыстае мерапрыемства з нагоды 70-годдзя заснавання і дзейнасці навучальнай установы.

Удзел ва ўрачыстасцях узялі Пасол Беларусі ў Польшчы А. Авер'янаў, ваявода падляскі М. Жыўна, кіраўнікі органаў мясцовага самакіравання гміны, горада і павета Бельск-Падляскі, прадстаўнікі праваслаўнага і каталіцкага духавенства, шматлікіх адукацыйных устаноў Падляскага рэгіёна, лідары беларускіх грамадскіх аб'яднанняў у Польшчы, выпускнікі ліцэя і іншыя.

З Рэспублікі Беларусь свае віншаванні з нагоды юбілею ліцэя даслалі Міністр адукацыі С. Маскевіч, Міністр культуры Б. Святлоў, Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцей Л. Гуляка, Брэсцкі і Гродзенскі аддзелы Саюза пісьменнікаў Беларусі, МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і іншыя.

У віншаванні ад Згуртавання, сярод іншага, гаворыцца: "Мы хочам асабліва адзначыць вялікую ролю, якую ліцэй адыгрывае ў справе захавання беларускай мовы за межамі Беларусі – у Польшчы. Гэта той моцны асяродак, які дае сваім вучням магчымасць чуць і вывучаць беларускую мову, размаўляць на ёй, займацца творчай дзейнасцю па-беларуску, у тым ліку дзякуючы створаным пры школе мастацкаму калектыву "Спадчына" ды Беларуска-польскаму клубу, а таксама школьнай газеце "Лава". Мы радыя, дарагія сябры, што ліцэй з годнасцю нясе імя выдатнага беларускага дзеяча, акадэміка Браніслава Тарашкевіча, які зрабіў неацэнны ўнёсак у развіццё беларускага мовазнаўства".

Святкаванне 70-годдзя ліцэя было спалучана з урачыстасцю прысягі вучняў першых класаў навучальнай установы. У ліцэі былі арганізаваныя выстава мастацкіх прац ліцэістаў, фотавыстава аб гісторыі школы. Перад гасцямі выступіў мастацкі калектыў "Спадчына", які дзейнічае пры ліцэі.

*Паводле прэс-службы Беларускага культурнага таварыства*

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА КАСТРЫЧНІК 2014 ГОДА

2 кастрычніка – 90 гадоў таму памёр Аляксей Сапуноў (1851-1924), гісторык, археограф, краязнавец.

3 кастрычніка – 125 гадоў таму ў в. Празарокі (цяпер Падляскае ваяв., Польшча) памёр Міхаіл Пятроўскі (1889-1931), каталіцкі святар, педагог, грамадска-культурны дзеяч.

4 кастрычніка – 30 гадоў таму ў Бельгіі памёр Яўген Смаршчок (1914-1984), педагог, перакладчык, прафесар, святар Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі.

6 кастрычніка – 10 гадоў таму ў Брансвіку (Агаё, ЗША) памёр Васіль Мельяновіч (1934-2004), палітык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Паводле завяшчання пахаваны ў в. Азярніца Лунінецкага р-на.

14 кастрычніка – 115 гадоў таму ў в. Слабада-Кучынка (цяпер Капыльскі р-н) нарадзіўся Адам Бабарэка (1899-1938), пісьменнік.

17 кастрычніка – 20 гадоў таму памерла Зоя Коўш (1911-1994), нацыянальны дзеяч у Вільні, вязень ГУЛАГу.

17 кастрычніка – 15 гадоў таму, у 1999-м, у Мінску адбыўся масавы "Марш свабоды" (больш за 30 тысяч чалавек). Адбыліся сутыкненні дэманстрантаў з міліцыяй і вайскоўцамі.

23 кастрычніка – 105 гадоў таму ў в. Вялікае Сяло (цяпер Шаркаўшчынскі р-н) нарадзіўся Міхась Зуй (1909-1995), вайсковы і палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі, прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады (1987-1995 гг.).

25 кастрычніка – 15 гадоў таму памерла Надзея Груша (дзяв. Сасноўская; 1937-1999), дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі. Пахавана на беларускай дзялянцы могілак Фолкнер у Мельбурне (Аўстралія).

26 кастрычніка – 55 гадоў таму ў в. Гарошкаў Рэчыцкага р-на Нарадзіўся Анатоль Сыс (1959-2005), паэт.

28 кастрычніка – 40 гадоў таму памёр Рыгор Акулевіч (1907-1974), грамадска-культурны дзеяч, выдавец, публіцыст, актывіст Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады і Таварыства Беларускай Школы, дзеяч эміграцыі ў Канадзе.

29 кастрычніка – 25 гадоў таму, у 1989-м, у Курапатах прайшоў шматтысячны мітынг памяці ахвяраў сталінскага генацыду.

**Беларусы ў свеце**
№9(149), верасень 2014

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27